# Ніва

БЕЛАРУСКІ ГРАМАДСКА-КУЛЬТУРНЫ ТЫДНЁВІК

№ 24 (1163) ГОД XXIII БЕЛАСТОК 11 ЧЭРВЕНЯ 1978 г. ЦАНА 60 гр.





## НАШ ЧЫН

Быў гэта шосты дзень партыйнага чыну.

Каб паказаць грамадскую адданасць нашых землякоў, на гэты раз выбраліся мы ў Гайнаўскую гміну. Найперш спыняемся ля дарогі, якая ад шашы Бельск-Гайнаўка вядзе ў вёску Прагалі. Паўтара кіламетра. Сяргей Анапюк — прадстаўнік будаўнікоў дарог з Гайнаўкі паясняе мне, што вёска Прагалі заслужыла на тое, каб мець добрую дарогу для даезду ў гмінны цэнтр. — Яна гаспадарная, — кажа ён. — А тут — паглядзіце самі, — пасля дажджу не праехаць, не прайсці.

Працуюць прадстаўнікі гміннай спулдзельні „Сялянская самапомач", банка, спулдзельні вясковага транспарту, жыхары навакольных вёсак. Асабліва многа махнатаўцаў. Гэтая вёска славіцца грамадскімі чынамі.

— Наш грамадскі ўклад працы ў гэтую пабудову, — паясняе Мікалай Кучко, — ацанілі на звыш 100 тысяч злотых.

Прагалі, для якіх у асноўным дарога мае служыць, аказваецца, шчыра папрацавалі ўжо ў папярэдні дзень.

Ян Пракапюк — беспартыйны. Таксама, як яго аднавясковец Міхаіл Давідзюк і многія іншыя жыхары вёскі Трывежа. Сустрэў я іх на дарозе з Трывежы ў Катоўку. Гэта дзве гаспадарныя вёскі, а праезду між імі амаль няма. Трэба прабірацца праз калдобіны



Працуюць вучні гайнаўскага белліцэя.



На дарозе ў вёску Прагалі.

і балота. Сюды, для пабудовы гэтай дарогі, прывёз уласным трактарам 12 членаў партыі яе сакратар з вёскі Рэпіска — Сцяпан Васілюк.

На гэтай жа дарозе працуюць таксама жыхары Катоўкі і многіх другіх суседніх вёсак, асабліва многа тут машын. Нам аднак трэба спяшацца, каб паспець у іншыя мясціны, дзе сабраліся людзі на грамадскі чын дзеля супольнай карысці. Для прыкладу, працаўнікі навасадаўскага СКРу пракладалі тады дарогу на ўласную жывёлагадоўчую ферму. Гэта, так сказаць, іх надзённы абавязак. І таму з большай увагай адношуся я да шматлюднага натоўпу людзей, якія сабраліся на дарозе з вёскі Дубіны ў вёску Савіны Груд. Дубіны, Пасталова, Бельшчына, Савіны Груд, настаўнікі і вучні, члены спулдзельні прадукцыйнай. Рассыпаліся па ўсёй даўжыні дарогі. Рыгор Шарэйка, старшыня гміннага праўлення ЗБоВіД, заяўляе, што на працу прыйшло 15 дубінаўскіх ветэранаў, даўнейшых партызанаў і салдат. Дырэктар гміннай школы Яўгеній Гарустовіч расказвае аб традыцыях грамадскай працы ў падгайнаўскіх Дубінах, аб разбудове школы, аб пасадцы лесу. Ён настаўнічае тут ужо шмат часу, дык ведае гэта і сам,

Працяг на стар. 4

## БЕЛАРУСКІ ТЭАТР 1978

Зала памалу запаўняецца. На сцэне рух. Ідзе апошняя падрыхтоўка. І заслона падымаецца. Сцэна, якая нядаўна пуставала, замянілася ў вясковую вуліцу. Бярозы, плот, ля плоту лавачка. А за плотам „суседская размова". За куры сварацца. Поўнасцю вясковая атмасфера. Памалу пачынаюць збірацца жанчыны. І „суседскую дыскусію" перарывае песня. Співаюць. Зусім, як некалі на вёсцы. Ды і песні свае, народныя. Цудоўная гама галасоў. Песня ўліваецца проста ў сэрца. А ў перапынках паміж песнямі зноў распачынаецца „суседская дыскусія", дасканалая ўзаемахарактарыстыка. Гэтак выглядае нядзеля на вёсцы. Трапна і ўмела перадалі гэта жанчыны з меляшкоўскага калектыву, які вядзе Зіна Літвін. Ды зрэшты і назвалі гэта „Нядзеляй на вёсцы". Вельмі трапная падборка дыялагаў, дэкарацыя. Ну, зусім, як на вёсцы. Так, быццам прасядзеў паўгадзіны ля плоту на лаўцы, ловячы пульсаванне вясковага жыцця.

Невялічкі перапынак — і сцэна мае іншы выгляд. Зноў ёсць плот, лаўка, бярозы. На плоце сохнуць збанкі. Але павявае зусім іншай атмасферай. Гэта ўжо не тая вёска, якую паказвалі Меляшкі. Зусім іншы настрой. Вучні з бельскага белліцэя паставілі „Не верце цішыні" Івана Шамякіна. З кожнага кадра, з кожнага руху і слова павявала дасканалай падрыхтоўкай, вялікім укладам працы з боку апякункі Веры Рышчук — настаўніцы беларускай мовы ў гэтым жа ліцэі. Хвілінамі глядач забываў аб тым, што гэта ігра, што гэта ўсё на сцэне, а адчуваў сябе ўдзельнікам адбываючыхся падзей. Зусім як бы выступалі не аматары, а прафесіяналы. Зусім не адчувалася ненатуральнасці. Цудоўная ігра Мікалая Хіліманюка заваявала сэрцы многіх.

І зноў сцэна змяняецца. Дэкарацыя вельмі скромная, але трапная. На сцэне акцёры з беластоцкага драмгуртка, які вядзе Янка Крупа. Ставяць камедыю Ірыны Лафінай „Бацькоўскае благаслаўленне". У зале смех. Значыць, узяла. Заваявала гледачамі. А асабліва ігра Валі Шусты, выступаючай у ролі бабулькі сучаснага Дон Жуана. Цудоўнае дастасаванне голасу. Ужо зыходзіла са сцэны, а зала аж кіпела ад апладысментаў.

Невялічкі перапынак — і зноў мы на вёсцы. Жанчыны з Арэшкава пад кіраўніцтвам Ніны Аверчук пераносяць гледачоў у вясковую хату, дзе адбываецца штодзённая размова свякрухі з нявесткай. Трапныя параўнанні і ўзаемная характарыстыка выкліка-

Працяг на стар. 4



Сцэна з „Не верце цішыні" І. Шамякіна, пастаўленай вучнямі бельскага белліцэя.

## ШТО НОВАГА?

### ЗА РУЛЁМ З БУТЭЛЬКАЙ

Партугалія — адна з нямногіх еўрапейскіх краін, дзе ўжыванне спіртнога вадзіцелямі практычна не кантралюецца. Між тым, згодна з паліцэйскай статыстыкай, пяцьдзесят працэнтаў смяротных выпадкаў пры дарожных катастрофах прыпадае на тых, хто п'е за рулём.

Для эфектыўнай барацьбы з нецвярозымі шафёрамі, пішуць мясцовыя газеты, па-першае, трэба ўдасканаліць існуючае заканадаўства, што пастаянна адкладваецца з-за розных юрыдычных затрымак. Па-другое, трэба аснасціць адпаведныя службы неабходнай колькасцю „Алька-тэстаў" — прыбораў, якія вызначаюць колькасць алкаголю ў крыві. Але для іх набыцця неабходны грошы, а для работы з імі — спецыялісты, якім таксама трэба плаціць. Ні на тое, ні на другое ва ўлад хранічна не хапае сродкаў. Па-трэцяе, для паспяховага ажыццяўлення антыалкагольных мерапрыемстваў трэба было б „адвучыць" сярэдняга партугальца ад традыцыйнай бутэлькі віна за абедам і вячэрай, а гэта, бадай, цяжэй за ўсё.

Напярэдадні кожнага рэлігійнага або свецкага свята, у час якіх ужыванне алкагольных напіткаў рэзка павялічваецца, паліцыя публікуе прагнозы, колькі забітых і параненых чакаецца ў аўтамабільных аварыях. Тым часам радыё па некалькі разоў у дзень перадае „гвозд сезона" — песеньку „А ну, штопар, адкаркуй бутэльку", якая апісвае прыгоды заліхвацкіх матацыклістаў, што ездзяць у стане ап'янення па партугальскіх дарогах.

## З БЕЛАРУСКАГА ДРУКУ

### СПАДАБАЛІСЯ ДЫЯПРАЕКТАРЫ

„Свіцязь", і „Свіцязьаўта", „Альфа-3550" — дыяпраектары гэтых мадэлей атрымалі добрыя водгукі фотааматараў. Беларускі філіял Усесаюзнага навукова-даследчага інстытута тэхнічнай эстэтыкі разам з Беларускім оптыка-механічным аб'яднаннем распрацавалі новыя мадэлі дыяпраектараў.

### У ГЭТЫМ ТЫДНІ

**160 гадоў назад**

17 VI 1818 нар. Шарль Гуно, французскі кампазітар. Напісаў 12 опер. Найбольш вядомая — „Фауст". Адзін з пачынальнікаў франц. раманса.

**135 гадоў назад**

15 VI 1843 нар. Эдвард Грыг, нарвежскі кампазітар, піяніст, дырыжор, крытык, музычны дзеяч, пачынальнік нарвежскай нацыянальнай музычнай класікі.

**75 гадоў назад**

17 VI 1903 нар. Міхаіл Святлоў, рускі савецкі паэт і драматург. Аўтар „Грэнады" і „Песні пра Кахоўку".

**50 гадоў назад**

14 VI 1928 нар. Эрнэст Чэ Гевара, лацінаамерыканскі рэвалюцыянер, адзін з кіраўнікоў Кубінскай рэвалюцыі 1959 г.

**Niwa**

**BIAŁORUSKI TYGODNIK SPOŁECZNO-KULTURALNY**

**ODZNACZONY ZŁOTĄ ODZNAKĄ „ZASŁUŻONY BIAŁOSTOCCZYŹNIE"**
**Organ Zarządu Głównego Białoruskiego Towarzystwa Społeczno-Kulturalnego**

* * * * * * * * * * * * * * * * * * * * * * * * * * *

**ADRES REDAKCJI**
**Niwa**
**ul. Wesołowskiego 1**
**15-950 Białystok, skr. poczt. 149**
**tel. 2-32-41**

* * * * * * * * * * * * * * * * * * * * * * * * * * *

Wydawca:
RSW „Prasa-Książka-Ruch", Przedsiębiorstwo Wydawniczo-Kolportażowe w Białymstoku. Prenumeratę na kraj przyjmują Oddziały RSW „Prasa-Książka-Ruch" oraz urzędy pocztowe i doręczyciele. Cena prenumeraty rocznej 28 zł. 80 gr. Prenumeratę ze zleceniem wysyłki za granicę, która jest o 50% droższa od prenumeraty krajowej, przyjmuje RSW „Prasa-Książka-Ruch", Centrala Kolportażu Prasy i Wydawnictw, ul. Towarowa 28, 00-958 Warszawa, konto PKO nr 1531-71.
Indeks 36911/36671
B.Z.Graf. Zam. nr 1313, 7.600 egz. N-4





Халадзільнікі Мінскагазавода карыстаюцца вялікім попытам. Фота В. Казлова.

Карэспандэнцыя з Мінска

## На заводзе халадзільнікаў

Мінскі завод халадзільнікаў (лядовак) параўнальна маладое прадпрыемства ў беларускай сталіцы. Сваю першую прадукцыю — халадзільнікі „Мінск-2" і „Мінск-3" — яно пачало даваць у студзені 1964 года.

У канцы 1970 года завод пачаў выпускаць новую мадэль халадзільніка „Мінск-5" аб'ёмам 180 літраў, а потым халадзільніка „Мінск-6" аб'ёмам 240 літраў. У 1973 годзе з канвеера пачалі сыходзіць новыя халадзільнікі „Мінск-9" і „Мінск-10". За дзесяць год завод наладжыўся выпускаць дзесяць новых мадэлей халадзільнікаў. Чатыром мадэлям з іх — „Мінск-5", „Мінск-6", „Мінск-10", „Мінск-11" — прызнаны дзяржаўны Знак якасці. Гэтая вытворчасць завода карыстаецца вялікім попытам не толькі ў Савецкім Саюзе, але і па-за яго межамі.

За апрацаванне і масавы выпуск новых высакаякасных халадзільнікаў і датэрміновае выкананне заданняў дзевятага пяцігадовага плана Мінскі завод халадзільнікаў узнагароджаны ордэнам Працоўнага Чырвонага Сцяга.

Калектыў завода ўдала пачаў і дзесятую пяцігодку. Заданні 1976 года выканаў датэрмінова, паспяхова выканаў і план 1977 года. Наладжыўся прадукаваць і новую мадэль халадзільніка „Мінск—12".

Адметнай асаблівасцю завода халадзільнікаў з'яўляецца высокі ўзровень механізацыі і аўтаматызацыі ўсіх асноўных і дапаможных працэсаў вытворчасці. Даволі сказаць, што агульная даўжыня механізаванага канвеера на заводзе складае звыш сямі кіламетраў. Тут абсталявана і працуе аўтаматызаваная сістэма кіравання вытворчасцю, уведзена ў карыстанне сістэма кантролю за якасцю прадукцыі, дзейнічае свой інфармацыйна-вылічальны цэнтр і іншыя навінкі. На прадпрыемстве цяпер працуе 749 спецыялістаў з вышэйшай і сярэдняй спецыяльнай адукацыяй.

У часы няспыннага ўдасканальвання тэхнікі, вытворчасці і тэхналогіі нельга абмяжоўвацца тымі ведамі, якія чалавек здабыў раней, у такой сітуацыі неабходна ўдасканальваць і самога чалавека. Вось чаму на заводзе вучыцца ў вышэйшых навучальных установах, тэхнікумах, у школах рабочай моладзі кожны трэці працуючы. Паглыбляючы свае веды, рабочыя больш актыўна ўдзельнічаюць у кіраванні прадукцыяй. Кожны чацвёрты з іх з'яўляецца членам стала дзейнічаючай вытворчай нарады або членам эканамічнага аналізу, 16 рабочых выбраны дэпутатамі раённага і гарадскога Саветаў народных дэпутатаў.

Высокая прадукцыйнасць працы немажліва без паўнавартаснага адпачынку, належна ўпарадкаванага быту, зладжана ўстаноўленай і арганізаванай службы здароўя. Улічваючы важнасць гэтай справы, прафсаюзная арганізацыя завода імкнецца зрабіць водпуск працуючых прыемным і карысным для здароўя кожнага адпачываючага. У мінулым годзе, напрыклад, 786 рабочых і працаўнікоў адміністрацыі адпачылі і папраўілі сваё здароўе ў санаторыях і дамах адпачынку краіны. Яшчэ 1028 працуючых адпачылі і папраўілі сваё здароўе ў завадскім санаторыі-прафілакторыі, які пабудавала само прадпрыемства, і ён працуе ўвесь год — узімку і ўлетку. На заводзе дзейнічае медыка-санітарнае аддзяленне, у якое ўваходзяць тэрапеўтычны, зубны і фізіятэрапеўтычны кабінеты, ёсць свая завадская паліклініка з лекарамі ўсіх спецыяльнасцей, што пільна наглядаюць за здароўем рабочых і адміністрацыйных працаўнікоў прадпрыемства.

Шмат увагі на заводзе аддаецца развіццю фізічнай культуры і спорту. Цяпер тут дзейнічае 12 спартыўных секцый, у якіх займаецца 1180 чалавек. Яны маюць стадыён, плавальны басейн, баскетбольную і дзве валейбольныя пляцоўкі. Тут падрыхтавана 742 спартсмены з высокімі вынікамі, 303 грамадскія інструктары і трэнеры, 151 спартыўных суддзяў. Спартсмены завода актыўна ўдзельнічаюць у спаборніцтвах у розных відах спорту.

Яскравае праяўленне клопату пра паляпшэнне быту працуючых на заводзе — гэта забеспячэнне іх кватэрамі і іншымі культурна-бытавымі запатрабаваннямі. Толькі за апошнія тры гады прадпрыемства пабудавала 570 новых кватэр, тры прадшкольныя аб'екты, сталовую, клуб. Цяпер на заводзе амаль усе рабочыя жывуць у кватэрах з навейшым абсталяваннем. Няма праблем з апекай над дзецьмі. Пакуль бацькі знаходзяцца на рабоце, іх дзеці праводзяць свой дзень пад наглядам вопытных педагогаў і няняў у прадшколлях і яслях.

Дзве завадскія сталовыя гарантуюць рабочым магчымасць хутка з'есці абед за 10-12 мінут.

Для культурнага правядзення вольнага часу на заводзе ёсць клуб на 500 месц, у ім знаходзіцца шырокаэкраннае кіно, дзейнічаюць эстрадны і танцавальны калектывы, духавы аркестр, студыі любіцелей фатаграфавання і фільмавання, самадзейныя артысты выступаюць з канцэртамі, а любіцелі фільмавання паказваюць свае працы на экранах клуба.

**Ф. Васільеў**

**ПРАЗ ТЫДЗЕНЬ У „НІВЕ"**

**У пашане новыя песні • Фэст у Літвінавічах • Барысаўшчына • Святое возера • Хто, колькі і на што • І так бывае • Пакой, поўны ўспамінаў аб вайне • Палоска дзядзькі Кваса • Весткі з Нараўкі, Боцькаў, Сухаволі, Заблудава, Гайнаўкі, Руткі, Орлі, Чаромхі, Кнаразоў, Дарожак • Калі сніцца падарожжа за граніцу • Мюзікхол у Ніжніх Лапцях • Песня „Byle było tak".**

## TELEWIZJA WARSZAWA

**Sobota 10.VI** — 6.55 RTSS. Fiz. 7.25 Geogr. 7.55 TTR. Hod. zwierz. 8.25 Mech. rol. 8.55 Pr. dnia. 9.00 Odpowiedź — radz. dramat obycz. 10.25 Bałtycka wachta — wojs. film dok. 10.55 Kalendarz przyrodniczy. 11.25 Tydzień pełen wrażeń — czech. kom. sens. 12.40 Życiorysy współczesne. 13.00 Studio 2. — 21.35 Mundial 78 — Meksyk—Polska (w przerwie sprawozdanie z meczu Francja—Węgry). — 0.00 Mundial 78 — Włochy — Argentyna (w przerwie sprawozdanie z meczu RFN — Tunezja).

**Niedziela 11 VI** — 6.25 TTR. Hod. zwierz. 6.55 Mech. rol. 7.25 Now. w domu i zagr. 7.50 RTSS. Nasze spotkania. 8.10 Emerytury dla rolników. 8.20 Telewizjada. 8.55 Pr. dnia. 9.00 Teleferie: Lato z Kasią — film czech. 9.30 Mundial 78 — Meksyk—Polska, Francja—Węgry, RFN—Tunezja, Włochy—Argentyna. 11.30 Antena. 12.00 Dziennik. 12.15 Rolnicze rozmowy. 12.45 Przez morza i lądy —serial. 13.40 Koncert Wielkiej Ork. Symf. 14.25 Klub Sześciu Kont. 15.15 Piórkiem i węglem. 15.40 Los. Dużego Lot. 15.50 W Starym Kinie. 16.40 Kalejdoskop z Tuulikki Eloranta — pr. rozr. 17.20 Tele-Echo. 18.30 Sport. 19.00 Wieczorynka. 19.30 Dziennik. 20.30 Bajka dla dor. 20.40 Ziemia obiecana — odc. IV ser. 21.35 Mundial 78 — Szkocja—Holandia (w przerwie sprawozdanie z meczu Brazylia—Austria, Szwecja—Hiszpania, Peru—Iran).

**Poniedziałek 12 VI** — 9.30 Studio Mundial. 12.45 TTR. Hod. zwierz. 13.25 Mech. rol. 14.55 Pr. dnia. 15.00 Melodie. 15.30 Nad Obem i Angarą. 16.00 Dziennik. 16.30 Teleferie. 17.30 Dom i my. 17.45 Klub kibica. 18.15 Nasi kochani bliźni — odc. serialu. 19.00 Dobranoc. 19.10 Siódemka. 19.30 Dziennik. 20.30 Teatr TV. Ch. de Payret Chappuis: Szaleństwo. 22.10 Camerata. 22.40 Dziennik.

**Wtorek 13 VI** — 6.00 TTR. Hod. zwierz. 6.30 Mech. rol. 10.00 Człowiek z M-3 — kom. pol. 12.45 RTSS. Fiz. 13.25 Chem. 14.55 Pr. dnia. 15.00 Melodie. 15.30 Klub Seniora. 16.00 Dziennik. 16.10 Obiektyw. 16.30 Studio Mł. 17.10 Zgadnij kim jestem — teletur. 17.50 Mieszkańcy śródziemnomorskich lasów — odc. hiszp. ser. 18.20 Studio Mundial 78. 18.50 Radzimy rol. 19.00 Dobranoc. 19.10 Siódemka. 19.30 Dziennik. 20.30 Saga rodu Palliserów — odc. XII ser. 21.35 Andrzej Hiolski. 22.00 Dziennik. 22.15 Praska wiosna.

**Środa 14 VI** — 6.00 RTSS. Fiz. 6.30 Chem. 10.30 Tydzień pełen wrażeń — kom. czech. 12.45 RTSS. Hist. 13.25 Uprawa rośl. 14.55 Pr. dnia. 15.00 Melodie. 15.30 Książę Wisły. 16.00 Dziennik. 16.10 Obiektyw. 16.30 Kino Najmł. 17.00 Rodowody. 17.30 Los. Małego Lot. 17.45 Nie tylko dla kobiet. 18.15 Kółko i krzyżyk. 18.30 Między nami jaskiniowcami. 19.00 Dobranoc. 19.10 Siódemka. 19.30 Dziennik. 20.30 Kochaj mnie Harry — ang. dramat obycz. 21.35 Studio Mundial 78. 23.35 Dziennik.

**Czwartek 15 VI** — 6.00 RTSS. Hist. 6.30 TTR. Upr. rośl. 9.30 Studio Mundial 78. 12.45 RTSS. J. pol. 13.25 Hist. 14.55 Pr. dnia. 15.00 Melodie. 15.30 Sztuka na co dzień. 16.00 Dziennik. 16.10 Obiektyw. 16.30 Teleferie. 17.30 Złote ręce. 17.55 Poligon. 18.25 Sonda. 18.50 Radzimy rol. 19.00 Dobranoc. 19.10 Siódemka. 19.30 Dziennik. 20.30 Komisarz Maigret — odc. ser. krym. 22.15 Pegaz. 23.00 Dziennik.

**Piątek 16 VI** — 6.00 RTSS. J. pol. 6.30 Hist. 10.30 Na rabunek — kom. radz. 14.55 Pr. dnia. 15.00 Melodie. 15.30 Festiwal Pieśni Chóralnej Międzyzdroje 77. 16.00 Dziennik. 16.10 Obiektyw. 16.30 Teleferie. 17.00 Postawy. 17.30 Więzy przyjaźni — odc. ser. jug. 18.35 Magazyn motor. 19.00 Dobranoc. 19.10 Siódemka. 19.30 Dziennik. 20.30 Kozioł ofiarny — jap. dramat sens. 21.50 Dziennik. 22.05 Studio Teatralne. S. Beckett: Czekając na Godota.

## ТЭЛЕВІЗІЯ МІНСК

**Piątek 9VI** — 8.25 Film fab. 18.50 Film fab. 20.30 Uroczyste otwarcie VI konkursu im. Czajkowskiego.

**Sobota 10 VI** — 8.25 Film fab. 16.00 W świecie zwierz. 17.15 Film anim. 17.35 Piosenka-78. 18.05 Spektakl. 22.00 Pr. estrad.

**Niedziela 11 VI** — 10.00 Film fab. 11.10 Koncert. 13.00 P. nożna. Włochy—Argentyna. 15.30 Panorama międzynar. 16.05 Koncert. 16.30 Filmy anim. 17.15 Klub film. 18.15 Śpiewa M. Pachomienko. 18.45 Film fab. 20.30 P. nożna. Szkocja—Hiszpania.

## ГАВОРЫЦЬ БЕЛАСТОК!

Беларуская радыёперадача: субота, 12.05 — 12.25 (UKF).

## КІНО

**Białowieża** Tabor wędruje do nieba — radz. 13—14. Miłość w deszczu — fr. 15—16. Lili kochaj mnie — fr. 17—18.
**Bielsk Podl.** Straceńcy — USA 12. Joe Hill — szwedz. 13—14. Trędowata — pol. 15—17.
**Czeremcha** Tomasz — fr. 13—14. Milion za Laurę — pol. 17.
**Czyże** Barwy ochronne — pol. Zaufanie — radz. 14—18.
**Dubicze Cerk.** Krótki sezon — wł. Robert i jego małpka — czes. 14—18.
**Hajnówka** Okrągły tydzień — pol. 13—14. Błękitny ptak — radz. 15—16.
**Gródek** Sprawa Gorgonowej — pol. 17—18.
**Michałowo** Królowa pszczół — pol. 13—14. Za rok, za dzień, za chwilę — pol. 15—16. Lokator — fr. 17—18.
**Mielnik** Ponad strachem — fr. 14. Alicja już tu nie mieszka — USA 17—18.
**Milejczyce** Taka ładna dziewczyna — fr, Król Maciuś I — pol. 14—18.
**Narew** Święto dzikich zwierząt — fr. Wniebowstąpienie — radz. 14—18.
**Narewka** Błękitny ptak — radz. Gwiazda zwodniczego szczęścia — radz. 14—18.
**Nurzec** Czarodziejskie dary — NRD 13—14. Wielka noc i wielki dzień — czes. 15—16. Kochaj albo rzuć — pol. 17—18.
**Orla** Wielka podróż Bolka i Lolka — pol. W krainie pieczonych gołąbków — NRD 14—18.

20-годдзе радыёперадач на беларускай мове

# ГАВОРЫЦЬ БЕЛАСТОК!

Роўна 20 гадоў таму назад на хвалях Беластоцкага радыё першы раз паплылі словы беларускай радыёперадачы. Аўтарам першых перадач быў Мацей Канапацкі, раней журналіст „Нівы" і даследчык польска-беларускіх літаратурных сувязей. Наступным рэдактарам быў Лявон Майсеюк, потым Станіслаў Пазнанскі і вось ужо тры гады, як Віктар Рудчык рэгулярна рыхтуе гэтыя перадачы.

Беларускія перадачы ад пачатку скрышталізаваліся як так званы „слоўна-музычны магазін". Тэмай такога магазіна можа быць кожная праблема — монатэма або некалькі праблем ці інфармацый. Таму маем перадачы, вельмі розныя па зместу. У цяперашняга іх аўтара згодна з яго галоўнай спецыяльнасцю — рэпарцёра ў „Ніве", і ў радыёперадачах пераважаюць жывыя, часта іскрыстыя рэпарцёрскія запісы, з той розніцай, што не ў блакноце, а на магнітафоннай плёнцы.

Для беларускіх радыёперадач аўтар выкарыстоўвае беларускую музыку, песні калектываў з БССР і нашых, беластоцкіх. Вельмі істотныя гэтыя апошнія, паколькі ў Беластоцкім радыё збіраецца такім чынам матэрыял гістарычнага значэння — капальня для этнографа і фальклярыста. Запісваюцца на плёнку ўсе песенныя канцэрты конкурсу „Беларуская песня". Запісы выкарыстоўваюцца ў бягучых радыёперадачах і могуць быць выкарыстаны яшчэ шырэй у будучыні. Цяжкасці выступаюць з папаўненнем музычнага матэрыялу з Беларусі.

Так павялося, што радыёперадачы на беларускай мове іх аўтары рыхтавалі ў асноўным з думкай аб вёсцы. Матэрыял запісваецца на вёсцы і адрасуецца туды ж. Але слухаюць іх, можа нават часцей, чым на вёсцы, слухачы ў гарадах, у тым ліку і ў Беластоку. З Беластока людзі пішуць лісты, часта пажаданні адносна пачутых песень. Дык вельмі добра было б пашырыць праблематыку радыёперадач на гарадское, рабочае жыццё.

З выпадку юбілею жадаем беларускім радыёперадачам Беластоцкага радыё далейшых плёнаў!

**Вера Леўчук**

Фота Я. Целушэцкага



*Віктар Рудчык у размове з карэспандэнтам „Нівы" Мікалаем Панфілюком.*

## ГУТАРКА ДЗЯДЗЬКІ МАКСІМА

### ПАКЛОН ПАЭТАМ

Як прыгожа цяпер у полі! Збожжа страляе ўжо ў здзябло, сенажаць замільгацела шматлікімі колерамі кветак, у паднебнай прасторы безупынку спяваюць салаўі, жаўрукі і ўсялякае іншае лятучае стварэнне, буслы цярпліва шукаюць жабаў, па пасбішчы разбегліся чорна-белыя красулі...

Аж сэрца радуецца і душа весяліцца, што такое дабро навокал, што праца наша сялянская не была дарэмнай, што пераўтвараецца яна ў хлеб і мяса.

Бачу я ўсё гэта і чую, чую глыбока і шчыра. Толькі як гэтыя пачуцці, як думкі перадаць людзям? Тут трэба быць паэтам, каб прыгожа і праўдзіва апісаць усю тую радасць працы, радасць тварэння, радасць сужыцця з прыродай!

*Я зайздрошчу Дзядзьку Квасу,*
*Ён паэтам блізкі сэрцам,*
*Хоць, бывае, час ад часу*
*Хвост падмажа ён ім перцам.*
*Я таксама з імі ў згодзе,*
*І не толькі гэтым летам —*
*Святкаваць нават стагоддзе*
*Не шкадую я паэтам.*
*Хай жывуць яны на славу*
*І на радасць для народу,*
*Хай...*

Хай — што? Як падабраць адпаведныя словы, каб яны пасавалі да рыфмы і рытму, а яшчэ на дабавак перадавалі якраз гэтую найбольш патрэбную думку. Можа вось так было б добра:

*Хай жывуць яны на славу*
*І на радасць для народу!*
*Хай змагаюцца за справу,*
*Як бацькі іх за свабоду...*

Толькі за якую „справу" яны, нашы літаратары, маюць змагацца? А хто яго ведае! У кожнага чалавека свая балячка і свая справа. Дык можа інакш усё гэта трэба было б сказаць? Але як? Ой, цяжка быць паэтам! Трудна пісаць так, каб было да рыфмы, да рытму, ды яшчэ і да сэнсу.

Так прасядзеў я ў полі аж да вечара, зусім гэтага не заўважаючы, і ўжо сонца пачырванела, а люцэрна для свіней не накошана.

З паэтычных мараў разбудзіла мяне Палашка, якая перапалохалася, што я ўжо ўтапіўся ў меліярацыйнай канаве. Я ёй гавару, паясняю, што юбілей, што гэта з нагоды „Літаб'яднання"...

— Так, да літра вы ўсе гатовы аб'ядначца! А свінні галодныя ў хляве! — крычыць яна. Вось бачыце, як проза жыцця пераплятаецца з паэзіяй! А ў сваю чаргу

*Шкада што ў паэтычным непакоі*
*Не давялося ўсё ж мне жыць...*
*Па бацьку талент маю я да гною*
*І хлебаробам мне да смерці быць.*
*Дык таму празаікам, паэтам*
*Паклон заношу я усім:*
*Шчасліва вам — зімой і летам*
*Ваш слуга —*

**дзядзька Максім**

З НАРОДНАЙ АБРАДНАСЦІ

## ДЭМАНАЛОГІЯ

Дэманалогія — гэта, бадай, найбагацейшая галіна народнага веравання. Бытавала і яшчэ па сённяшні дзень бытуе ў народзе перакананне, што ўсе звышлюдскія сілы, як боскія, так і дэманічныя, выступаюць у выглядзе чалавека, або нагадваюць яго постаць. Доказам гэтага з'яўляецца хаця б і тое, што паяўляючаяся постаць памёршага заўсёды выступае ў такім выглядзе, як пры жыцці. Гэта той самы чалавек, якім яго бачылі, толькі што з пэўнымі адценнямі пазаземскага жыцця. Заўсёды паяўляецца худым і страшна белым, ад яго павявае дзіўным холадам. Або хаця б вобраз чорта. Заўсёды ён выступае ў чалавечай постаці, надзеленай пэўнымі рысамі, якія ў залежнасці ад абставін і часу становяцца больш або менш выразнымі. І пры гэтым паяўляецца адна цяжкасць, аб якой успамінаў ужо К. Машынскі. Гэта праблема аддзялення істот дэманалагічных ад людзей, утрымоўваючых з імі сувязі, таму што астатнія, згодна з перакананнямі людзей, прадаўшы сваю душу „нячыстай сіле", або з'яўляючыся месцам яе пасялення, маюць тыя ж самыя ўласцівасці, што і першыя.

Начныя прывіды, цяжкія сны ў перакананні людзей былі нічым іншым, як пранікannем у матэрыю сну злых сіл, сіл таямнічых, узмоцненых ноччу і цемнатой. Таямніца і цемната, вера ў дуалістычную пабудову свету і магчымасць узаемадзеяння дзвюх сіл стварылі атмасферу безупыннай гатоўнасці, прыпісванне віны нейкай злой сіле. Часта пасля цяжкай, перапоўненай соннымі марамі ночы, успаміналі пра „злое ліха", якое муціць „чалавечы спакой". Каб аблегчыць сабе, часта пасля прабуджэння, раніцай гэта ці ноччу, хрысцяцца. Крыж — гэта абараняючая сіла, уведзеная хрысціянствам, сіла, якая вяртае чалавеку спакой і адганяе ўсё злое. Хрысціліся таксама і перад сном. Апрача гэтага гаварылі нават цэлы пацер і малітву за памёршых, якія згодна з перакананнем сцерагуць дом — ахоўваюць жывучых у ім людзей. І малітва была тут формулай забеспячэння.

Людское веракананне ў дэманічныя сілы дало пачатак шматлікім расказам і легендам, якія пачалі пераказвацца доўгімі зімовымі вечарамі. Былі яны насычаны рознымі дэманічнымі істотамі і страхам. Набывалі таксама, у залежнасці ад ваколіцы бытавання, мясцовыя рэаліі, што яшчэ больш пераконвала людзей.

У нашых запісах будзем старацца выхапіць тыя элементы, якія надалей бытуюць у народзе. Будзем старацца паказаць змены ў залежнасці ад часу і месца бытавання. І гэтыя запісы будуць часта нагадваць сабой мантаж легенд, расказаў, казак, толькі будуць яны перанесены ў рэаліі, знаёмыя сённяшняму чытачу. Будуць яны таксама ператкaны нашай уласнай інтэрпрэтацыяй. Неабходна таксама будзе затрымацца і над тапаграфіяй месца паяўлення дэманічных сіл, паколькі мае яно істотнае значэнне. Узмацняе пагрозу і страх. Будуць гэта найчасцей узгоркі, старыя дрэвы, папялішчы, могілкі. У большасці выпадкаў пагалоскі пра страхі былі сыходнымі пунктамі для ўзнікання легенд і расказаў, якія з цягам часу папаўняліся новым. І так станавіліся фальклорнымі творамі. Калі ўжо мы сказалі пра могілкі, дык варта адзначыць, што найчасцейшым месцам паяўлення дэманічных істот была так званая непасвенчаная частка, гэта значыць тая, дзе хавалі самагубнікаў. Паяўляліся таксама на могілках, узнікшых у выніку эпідэміі ці вайны. Адным словам паяўляліся там, дзе хавалі памёршых без хаўтурнага абраду і царквы.

І так у нашых запісах будзем старацца паказаць культурную абалонку шматлікіх вераванняў, звяртаючы ўвагу на іх маралізатарскі характар, які з'яўляецца не чым іншым, як акрэсленым элементам Космасу, створаным і кантраляваным дзвюма супрацьстаўнымі сіламі.

**Янка Леанчук,**
**Міхась Шаховіч**



*Яшчэ адзін фрагмент цэнтра Беластока да першай сусветнай вайны. Тая ж Базарная вуліца (цяпер Рынак Касцюшкі) з іншага боку. Рэпрадукцыя А. Здрадоўскага.*

ФОТА-РЭТРА

ЛІТАРАТУРНЫ ПАЛЕТАК

## Стала неўміручай легендай

Кніга сучаснай беларускай пісьменніцы і гісторыка літаратуры **Лідзіі Арабей „Стану песняй"*)**, што ў канцы мінулага года выйшла ў Мінску, належыць да ліку тых каштоўных выданняў, якія ўсебакова паказваюць жыццё, дзейнасць і творчасць аднаго чалавека і адначасова вельмі пластычна ўваскрашаюць цэлую эпоху. Л. Арабей не абмінула ніводнай крышынкі, каб як мага паўней і жывей прадстала перад намі фенаменальная постаць у гісторыі нашага рэвалюцыйнага руху, грамадскай думкі і літаратуры **Алаізы Пашкевіч-Цёткі.**

Чытач ходзіць тымі польнымі сцяжынкамі каля Пешчына, Тарэсіна, Старога Двара на Лідчыне, якімі хадзіла дзяцінства, юнацтва і маладосць Алаізы, вандруе пакручастымі вулачкамі Вільні, Пецярбурга, Львова і Мінска, дзе фармаваўся яе светапогляд, нараджаліся палымяныя радкі вершаў, адбываліся не менш гарачыя яе прамовы на

(Працяг на стар. 4)

(Працяг са стар. 1)

# НАШ ЧЫН


*У Белавежскай пушчы.*

дарэчы, вельмі часта арганізаваў грамадскія чыны.

З Дубін ужо рукой падаць у Гайнаўку. А тут, вядома, не абмінуць беларускага ліцэя. Яго дырэктар, Уладзімір Сцепанюк, сабраў сваіх падуладных — настаўнікаў і вучняў, — да працы на вуліцы Вызвалення.

— Папярэднія два гады, — кажа ён, — працавалі мы пры пабудове гарадскога парку. А цяпер, вось бачыце, наводзім парадак у суседстве ўласнай школы. Але конта грамадскай працы нашых вучняў і настаўнікаў шмат багацейшае. Яны садзілі лес, дапамагалі ўпарадкаваць школу пасля рамонту.

Наблажаецца поўдзень. Спякота. Добра, што арганізатары падумалі пра халодныя напіткі. Нават у нетрах Белавежскай пушчы, недзе між вёскамі Лазіцы і Тапіла можна было атрымаць бутэльку мінеральнай вады, аранжады, а нават і піва. Тут на прасторным зрубе ў гэтую нядзелю садзілі малады лес: граб, дуб, альшыну. Вопытны ляснічы Васіль Даманюк паінфармаваў мяне, што ад самага ранку працавала тут амаль сто чалавек. З Гайнаўскага надлясніцтва, з вёсак Барок, Лазіцы, Арэшкава, Якубова, Пасечнікі. Заводжу гутарку з сакратаром арэшкаўскай партыйнай арганізацыі. Гэта малады селянін — Васіль Варанчук. Як і ў іншых вёсках, арэшкаўцы таксама грамадскім чынам будавалі вясковую краму, клуб, рамантавалі дарогі і кожны год, у дзень партыйнага чыну, выходзяць на пасадку лесу.

— Было б нас тут больш, — кажа сакратар, — аднак нашы жанчыны, члены самадзейнага калектыву, вымушаны былі паехаць у Беласток на агляд тэатральных калектываў.

У гмінным камітэце партыі, дзе размяшчаўся штаб, кіруючы ўсёй работай, ужо паспелі падвесці першыя вынікі: на тэрыторыі Гайнаўскай гміны ў дзень партыйнага чыну працавала 1100 чалавек. Сяляне вельмі часта прыязджалі ўласнымі трактарамі. Для прыкладу, на дарозе Трывежа-Катоўка працавала 23 трактары, у тым ліку 6 прыватных.

**Віктар Рудчык**
Фота аўтара

(Працяг са стар. 3)

# Стала неўміручай легендай

сходах, наведвае Польшчу, Італію, Фінляндыю, Швецыю, дзе рэвалюцыянерка-паэтэса шукала ратунку ад знішчаючых яе хрупкае цела сухотаў. А ўсё гэта ў той выключнай атмасферы, у якой праходзіла першая руская рэвалюцыя 1905 года і рыхтаваўся пераломны для народаў Расіі і свету 1917 год. І ў прысутнасці такіх выдатных постацей, як беларускі пясняр Янка Купала, украінскі літаратуразнавец і гісторык Іларыён Свянціцкі, літоўскі пісьменнік Іонас Білюнас, супрацоўнік У. І. Леніна рускі рэвалюцыянер Барыс Вігілёў, сям'я польскіх прагрэсіўных дзеячоў Умястоўскіх, беларус-настаўнік з Бельшчыны Яўген Хлябцэвіч і дзесяткі іншых слаўных людзей, дзейнасць і творчасць якіх адыграла выключна важную ролю ў гісторыі і культуры нашых суседніх народаў.

Кніга Л. Арабей раскрывае для нас шэраг мала або і цалкам не высветленых дагэтуль узаемных залежнасцей і ўздзеянняў паміж беларускім творчым асяроддзем канца XIX і пачатку XX стагоддзяў з аднаго боку, украінскім і літоўскім — з другога. Вельмі каштоўным у кнізе з'яўляецца паказ арганічнай еднасці палітычнай і грамадскай дзейнасці Цёткі з яе літаратурнай творчасцю. І гэта ў аднолькавай ступені ці то будзе адзін з першых яе твораў „Лета", ці цэлая кніга рэвалюцыйных вершаў перыяду 1905-1907 гадоў, ці ўрэшце адзін з апошніх — „Лучынка", а таксама як празаічная, так і публіцыстычная творчасць пісьменніцы-рэвалюцыянеркі — усіх іх і задуму, і радавод і канкрэтную мэту аўтар кнігі знайшла ў абставінах жыцця і дзейнасці Алаізы Пашкевіч. Не абыдзена моўчкі таксама і не менш важная ад іншых дзялянка яе дзейнасці — гэта праца з беларускімі дзецьмі ў прытулку, над выданнем чытанкі, пісаннем апавяданняў і артыкулаў ды рэдагаваннем першага беларускага дзіцячага часопіса „Лучынка". Такім чынам Л. Арабей у сваёй кнізе паказала праўдзівую веліч і незвычайнасць постаці Алаізы Пашкевіч — чалавека, які праз усё сваё поўнае небяспекі і нягоды жыццё „ішла са словам святым — Беларусь".

Апошні раздзел кнігі — гэта надта каларытны абразок сустрэчы яе аўтара недзе ў 1975 ці 1976 годзе з малодшай сястрой Алаізы Пашкевіч — Каралінай, якая жыве ў вёсцы Франін непадалёк ад Лодзі. Яе ўспаміны не толькі напаўняюць нашыя веды пра Цётку, але і з'яўляюцца непасрэдным мастом, што злучае тыя адлеглыя часы з нашай сучаснасцю, з нашым сённяшнім днём. Адначасова гэты жывы, трапяткі малюнак нагадвае нам, што беларуска-польскія рэвалюцыйныя і культурныя ўзаемасувязі мінулага ўсё яшчэ не згладжаны, тоіцца ў іх багацейшы і цікавейшы матэрыял, і ён усё яшчэ чакае сваіх адкрывальнікаў і каментатараў.

**Мікалай Гайдук**

———

Лідзія Арабей, „Стану песняй...", Мінск 1977, стар. 304 цана 7 зл.

## У ЛУЦЭ

У вёсцы Лука Нараўкаўскай гміны жыве Юстына Харкевіч. Ёй ужо сто гадоў. Жыве з дачкой Кацярынай Грыц. Зяць працуе рабочым на ПКП. У Юстыны Харкевіч 14 унукаў і 34 праўнукі. Сама мела 9 дзяцей. У сваіх сто гадоў адчувае сябе надта добра.

У дзень нараджэння юбілятку наведалі прадстаўнікі гміны. Яны ўручылі ёй 3000 зл. дапамогі ад гміны, урачыстае пісьмо, кветкі ад беластоцкага ваяводы і юбілейны торт ад ГСу. Служба здароўя ў Нараўцы абавязалася клапаціцца аб здароўі Юстыны.

**(АЗ)**

## Гмінныя навіны

### ГАСПАДАРЧАЯ ДУБРОЎШЧЫНА

На працягу кароткага часу ў Дуброўскай гміне здзейсніліся вялікія перамены. Асабліва павялічылася колькасць крамаў, а таксама гандлёвых і паслуговых павільёнаў. Шырока разгарнулася індывідуальнае будаўніцтва. Зараз жыхары будуюць дамы з водаправодам і цэнтральным ацяпленнем. Аднапавярховыя і двухпавярховыя. З кветкавымі агародчыкамі, дэкаратыўнымі дрэўцамі, тратуарамі.

Цяпер у гміне працуюць тры сельскагаспадарчыя прадукцыйныя спулдзельні і пяць сялянскіх калектываў, 70 гаспадароў пачало спецыялізавацца ў жывёлагадоўлі і раслінаводстве.

Жыхары Дуброўшчыны актыўна ўдзельнічаюць у грамадскіх пачынах. Будуюць дарогі, стражацкія рамізы, стадыён і іншыя аб'екты дзеля паляпшэння ўмоў жыцця гараджан і вяскоўцаў.

У Дуброве жыллёвы кааператыў пабудаваў звыш трохсот кватэр і сёлета распачне пабудову блока для 25 сем'яў. Гаспадарчай сістэмай узводзяцца гарадскія яслі на 75 месц.

З кожным годам прыгажэе горад Дуброва. Вылучаецца тут перш за ўсё жыллёвы раён ля вуліц 1000-годдзя Польскай дзяржавы і Паўднёвай. Ёсць тут крамы, паслуговыя цэнтры. Жыхары пасёлка пабудавалі пляцоўкі для дзіцячых гульняў і алейкі сярод дрэўцаў і аздобных кустарнікаў. **(ця)**




*Дрэннай славай карыстаюцца дастаўшчыкі з ВСТВ з Гайнаўкі, якія развозяць тавары па вясковых крамах. Часта, калі кліент купіць бутэльку віна, аказваецца, што ў ёй не віно, а нейкае смярдзючае пойла. Факт: дастаўшчыкі віно выпіваюць. Мо нейкі кілішак пакінуць на дне, дзеля маскіроўкі, а рэшту даліваюць нейкай сталовай вадой. Сам я пераканаўся, калі купіў у краме ў Дубічах Царкоўных такое віно. Як найхутчэй выліў яго на двор, так „пахла".*

(Працяг са стар. 1)

# Беларускі тэатр 1978

юць смех. Усё так натуральна, усё так па-сапраўднаму. Вельмі добра паказаны вясковыя жанчыны і іх псіхіка. Вёска не можа быць без песні. І жанчыны спяваюць.

У сёлетнім аглядзе драмгурткоў, які адбыўся 21 мая ў памяшканні ГП БГКТ у Беластоку, прынялі ўдзел чатыры драмгурткі — з Меляшкоў, бельскага белліцэя, Беластока і Арэшкава. Журы ў складзе: Валянціна Андрэюк, Эдвард Гудоўскі і Мікалай Гайдук аднагалосна былі за тым, каб не дзяліць месц. Усім трэба было б даць першыя, усе на гэта заслужылі. І падзялілі пароўну. Былі прызнаны ўзнагароды і апекунам за іх вялікі ўклад у падрыхтоўку. Найлепшым акцёрам прызналі Мікалая Хіліманюка з бельскага белліцэя, які атрымаў за гэта ўзнагароду тыднёвіка „Ніва". На другім месцы апынулася Валя Шуста.

Зала памалу пачынала пусцець. Разыходзіліся. Але воблік твару, гарачыя дыскусіі, свая інтэрпрэтацыя гаварылі аб тым, што сёлетні агляд драмгурткоў поўнасцю заваяваў увагу гледачоў.

**Міхась Шаховіч**
Фота аўтара


*Поўнасцю заваявалі ўвагу гледачоў.*




# НАШАНІЎСКАЯ ПАРА

### ЯКУБ КОЛАС — ЧАСТКА II

Нягледзячы на тое, што два ўдзельнікі настаўніцкага з'езду Сянкевіч і Янкоўскі, уцёкшы ў Данію, прыслалі адтуль заявы аб тым, што гэта яны былі галоўнымі арганізатарамі спаткання настаўнікаў, суд засудзіў Коласа на тры гады зняволення. Разам з Коласам былі засуджаны таксама настаўнікі Уладзімір Міцкевіч, Якуб Бязмен і Сымон Астроўскі.

Прыгавор адседжваў Колас у Мінскім астрозе. Ва ўспамінах пісьменніка выявіліся тыя ўражанні, якія былі выкліканы прыгаворам і першымі хвілінамі прабывання ў астрозе. „Усцісьнуўшыся паміж людскіх целаў, ляжаў я на цвёрдых нарах. Спаць не хацелася. У галаве ўсё перамяшалася. То вобразы, то адрыўкі мыслей... Прыпомніўся той момант, у які чыталі прыгавор суда... Ніякага ўражання гэтыя тры гады на мяне не зрабілі. І вось цяпер, лежачы тут, я ўявіў сабе гэтыя тры гады і пачуў, што гэта за час. Тры гады сядзець у гэтых брудных сценах, тры гады чуць на сабе кляймо арыштанта! І сэрца апала і мне стала цяжка і непрыемна". (Якуб Колас, Цені мінулага, Веснік асветы БССР, Мінск 1922, № 1/3/).

У 1911 годзе Колас вызваліўся з астрога. Пачаткова займаўся прыватным навучаннем дзяцей, пазней атрымаў настаўніцкія правы і пачаў працаваць у школе.

У 1914 годзе распачалася першая сусветная вайна. Колас быў перакананы, што будзе мабілізаваны ў царскую армію. Боязь пісьменніка выявілася ў лісце, напісаным у жніўні 1914 года Івану Луцкевічу:

„Забягаў, каб пабачыцца з Вамі. Але Вас не было тутака. Я ўчора прыехаў з Пінска, дзе думаў жыць, але мяне зноў забіраюць на вайну і справа наша дрэнна: нас заганяць у запасны батальён, павучаць, павучаць і пагоняць запаўняць рады „действующей армии"".

Аднак быў мабілізаваны Колас годам пазней, 6 верасня 1915 года. Прайшоўшы паўгадовыя афіцэрскія курсы, атрымаў афіцэрскі чын і быў назначаны камендантам эшалона, які вёз на румынскі фронт дэзерціраў.

Пісьменніку быў зусім чужы ваенны запал ці псеўдапатрыятычныя настроі. Быў ён у той час рашучым пацыфістам. Яго настроі выявіліся ў вершы „Дзве дарогі". Пацыфісцкія настроі Коласа яшчэ яскравей выявіліся ў яго артыкуле „З румынскага фронту":

„Мы выйшлі з вагонаў. Трывожная ноч ахапіла гэты чужы нам край. На бяздонным небе мігацелі далёкія ясныя зоры, і нейкі спакой сходзіў ад іх на зямлю, на тую зямлю, каторая ўжо чацверты год не ведае супакою. Ёсць сваё асобнае жыццё, сваё характво, грознае і жудаснае, у гэтых невядомых палях, дзе сышліся народы для вырашэння сваёй злой волі. Яны не змаглі памеркавацца, не змаглі падзяліць свае інтарэсы, сваё права. Спачывалі на кароткі момант гэтыя аматары мясцовага забойства, людскіх цёмных сіл, каторыя спрадвеку палажылі аблаunion на чалавека"... (Якуб Колас, З румынскага фронту, Вольная Беларусь 1917 № 26)

Пісаў гэта Колас на некалькі месяцаў перад Кастрычніцкай рэвалюцыяй. Хутка ён цяжка захварэў і такім чынам закончыў вайсковую кар'еру. Выехаў у Курскую губерню, дзе апынулася ў бежанцах яго сям'я.

Былі гэта часы, звязаныя з Кастрычнікам, якія адкрывалі ў жыцці пісьменніка новы перыяд.

# ШЛЯХ Аляксея Іванюка



„За вызваленне Варшавы“, „За перамогу над Германіяй у Вялікай Айчыннай вайне 1941-45“, „За ўзяцце Берліна“, „Ордэн Чырвонай Звязды“ — гэта след франтавога шляху Аляксея Іванюка. Яшчэ цяпер, трыццаць тры гады пасля вайны, праз сон вырываецца крык, як водгук на мільгаючыя кадры мінулага.

Па прафесіі ён настаўнік геаграфіі. Да вайны працаваў у Поразаўскім раёне. Але ўсяго толькі дзевяць месяцаў. Шаснаццатага кастрычніка 1940 года быў прызваны ў армію і накіраваны ў Закаўказскую ваенную акругу.

— Як сёння памятаю, — успамінае А. Іванюк, — вывезлі нас на палігон абучаць у стральбе. Быў я артылерыстам. Толькі мы выехалі, і пачалася вайна.

Успамінае прозвішчы сваіх камандзіраў, сяброў. Пералічвае часці, у якіх служыў. І раптам замаўкае. Вочы заплываюць нейкай дзіўнай імглою. Блудзяць далёка-далёка ў мінулым. І пытанне:

— А чулі вы нешта пра трохвугольнік паміж Донам і Данцом? Дык можаце сабе ўявіць, праз які агонь давялося прайсці, што перажыў.

Калі савецкія войскі перайшлі ў наступленне, А. Іванюк ішоў разам з І Беларускім фронтам. Аж да Берліна. Канец вайны не быў для яго ласкавым. Пад Эльдамам быў кантужаны і паранены. Трапіў у шпіталь. Спачатку ў Нейруппім, а потым Кенігсберг. Гэта ўжо быў канец вайны. Проста са шпіталя вярнуўся ў Савецкі Саюз, у Куйбышаў, дзе быў дэмабілізаваны. Цяга да роднай вёскі, сум па лугах і палях не давалі спакою. І ў кастрычніку пасля дэмабілізацыі вярнуўся ў Клейнікі, што зараз у гміне Чыжы. Тут гаспадарка, тут бацькі.

Гляджу на медалі. — За што Ордэн Чырвонай Звязды? — пытаю.

Зноў вяртаецца ў мінулае, у далёкую Германію. — Гэта было пад Эльдамам, — пачынае. — Бралі вакзал. Поўна немцаў. Я і яшчэ некалькі адбіліся ад часці. А на вакзале немцы. Могуць прарваць лінію фронту. Вось за ўтрыманне лініі і дастаў ордэн.

Загасіўшы ў пальцах папяросу, падымаецца з лавы. Поўдзень. Кароў трэба перачапіць. Падымаюся разам з ім. Выходзім у поле. Ох, як пахне зямля! Падымае грудку і расцірае ў руцэ.

— Май, а так яшчэ мокра. Цяжкі год будзе, холад, макрата, — адгукаецца.

Аляксею Іванюку 60 гадоў. Гаспадарыць. Гаспадарка даволі вялікая, шаснаццаць гектараў. Працуе з жонкай. Час ад часу дапамагае сын. Вядома, у вольныя хвіліны. Мае яшчэ на галаве школу. Канчае Водна-меліярацыйны тэхнікум у Беластоку.

— Я ўжо сам не змагу, але калі Алёша (сын) закончыць школу, а канчае ў гэтым годзе, дык загаспадарым па-новаму. Даўно ўжо нагаварвае, каб купіць трактар. Гаспадарка добрая, хай гаспадарыць.

Каровы кінуліся на прырэзаны ланцугом кусочак сакавітай травы. Ядуць. Памалу вяртаемся ў хату.

**М. Шаховіч**
Фота аўтара

# ФАЛЬКЛОР

СЯМЕЙНАЯ




*Божэ ж мой, Божэ, з такою радзінаю —*
*праклела ж мэне малою й дзецінаю,*
*праклела ж мэне малою й дзецінаю.*
*Можэ і не клела — такая й радзілася:*
*німа ж таго дня, коб я й ні смуцілася,*
*німа ж таго дня, коб я й ні смуцілася.*
*Німа ж таго дня, ані тае ночанькі,*
*коб ні плакалі мае й кары очанькі,*
*коб ні плакалі мае й кары очанькі.*

Ад Аляксандры Бонкард, 1909 года нараджэння, вёска Стачок каля Нараўкі, запісаў 6 сакавіка 1978 г. Мікалай Гайдук, нотная транскрыпцыя з магнітафоннай стужкі — Людмілы Панько.

# НА ПАРТЫЙНАЙ НІВЕ

Партыйная арганізацыя ў Гарадоцкай гміне налічвае 613 членаў і кандыдатаў, згуртаваных у 40 пярвічных арганізацыях. Вядучай з'яўляецца партыйная арганізацыя на прадпрыемстве трыкатажнай прамысловасці „Каро“. Яе члены (106 чалавек) актыўна ўдзельнічаюць у партыйнай вучобе, знаёмяцца з эканомікай прадукцыі на занятках у рамках філіяла ВУМЛ. У мінулым годзе найбольшым зацікаўленнем карысталіся заняткі на тэму грамадска-гаспадарчых спраў нашай дзяржавы. Сёлета паспяхова адбываюцца лекцыі на тэму гісторыі польскага рабочага руху. Вядуць іх: першы і другі сакратары гміннага камітэта ПАРП Яўген Раманчук і Мікалай Дуброўскі, Вячаслаў Савіцкі — сакратар бюро гміннага ўпраўлення, Ян Бараноўскі — дырэктар гміннай зборнай школы. Заняткі па партыйнай адукацыі адбываюцца адзін раз у месяц.

У „Каро“ шырока папулярызуюцца людзі добрай работы, дасягненні ўсяго рабочага калектыву і перспектывы далейшага развіцця прадпрыемства. Прадпрыемства мае добрыя сацыяльна-бытавыя ўмовы: амбулаторыю, прадшколле, яслі, сталовую і святліцу. У бліжэйшыя гады трэба будзе будаваць кватэры для рабочых. Сотні дзяўчат, якія пераважаюць у „караўскім“ рабочым калектыве, маюць клопат, дзе знайсці сабе кватэру. Амаль усе свабодныя пакойчыкі ў жыхароў Гарадка заняты. У кожным нават невялічкім жыве па некалькі асоб. Варта, каб хутчэй разгарнула тут сваю дзейнасць спулдзельчае жыллёвае будаўніцтва. Плануецца, што пачатак будзе зроблены сёлета восенню або найпазней вясною 1979 года. Вельмі важная справа гэта справа прадукцыйнасці працы. Многа такіх і іншых спраў павінен вырашыць сакратар ПОП Ян Анхім. Ён узначальвае партыйную арганізацыю ўжо дзесяць год. Усе члены ПАРП задэкларавалі ў бягучым годзе працаваць 18 гадзін у рамках грамадскага пачыну. Тут арганізацыя разбудоўваецца. Прыбывае новых членаў. Варта дадаць, што ў мінулым годзе з нагоды святкавання Свята Адраджэння жанчыны выпусцілі дадатковую прадукцыю вартасцю 500 тысяч злотых.

Гмінны камітэт партыі ў Гарадку падказвае мясцовым арганізацыям і ўстановам, як лепш працаваць. Напрыклад, СКРу, як лепш арганізаваць паслугі тутэйшым гаспадарам, між іншым, такім шляхам, каб трактарысты працавалі на дзве змены, арганізавалі комплекснае абслугоўванне, ствараючы брыгады. Усё гэта прынялося ў другіх гмінах. У Гарадоцкай яшчэ не.

Невядома, чаму не будуецца зараз асфальтаваная дарога з Міхалова ў Гарадок. А пачатак быў зроблены. Пабудова рушыла з боку Міхалова.

Камітэт партыі клапоціцца таксама пра рамонт будынка школы ў Коматаўцах, у якім будзе знаходзіцца вясковая святліца. Павінен ён вырашыць і шмат іншых спраў.

У вёсках грамадска-палітычны актыў вядзе ідэйна-выхаваўчую работу сярод членаў КГВ. Школы грамадска-палітычнага абучэння дзейнічалі ў Залуках, Случанцы і Меляшках. Удзельнічалі ў занятках 142 жанчыны. У вядзенні гэтых школ вельмі дапамагалі мясцовыя ўстановы, гэта значыць гарадоцкі спулдзельчы банк, сельскагаспадарчая прадукцыйная спулдзельня ў Зубрах і СКР. Яны прызналі ўзнагароды найлепшым удзельнікам.

У канцы гэтага года такія школы, але ўжо другой ступені, будуць арганізаваны ў спамянутых вёсках і ў Гарадку.

Актыўна працуюць вясковыя ПОП у Залуках, Калодным і Страшаве. У Залуках па ініцыятыве членаў партыі будуць пракладзены тратуары, будзе рамантавацца стражацкая раміза-святліца. Можа з часам пойдзе праз вёску аўтобус ПКС. Апрача таго будзе адрамантавана дарога на адрэзку Залукі-Боркі.

Будзе рамантавацца раміза-святліца ў вёсцы Калоднае.

У Страшаве неабходна зрабіць лепшыя дарогі на сенажаці.

Кіраўніцтва гміннай арганізацыі многа ўвагі прысвячае пярвічным партыйным арганізацыям. Ад іх аўтарытэту залежыць аўтарытэт і ўласцівае выкананне кіраўнічай ролі партыі ў кожным асяроддзі і ва ўсім грамадстве.

**Я. Целушэцкі**

# НАЙПРЫГАЖЭЙШЫ Ў ВЁСЦЫ



Іван Казлюк з вёскі Шашылы (гміна Боцькі) з'яўляецца не толькі добрым гаспадаром на сваіх 11 га зямельных угоддзяў, але таксама і добрым пчаляром. У яго 30 вулляў. Каб мець добрыя вынікі ў пчалаводстве, таксама патрабуецца многа ўвагі і працы. А ў працы яму вельмі дапамагаюць яго бацькі, з якімі ён супольна жыве і гаспадарыць.

Яшчэ зусім нядаўна Іван Казлюк мог сам працаваць па-за гаспадаркай. Хапала сілы бацькам упраўляцца з апрацоўкай зямлі і доглядам пасекі. І тады быў ён працаўніком будаўнічага прадпрыемства ў Бельску. Маляваў памяшканні. А пазней маляром працаваў на працягу двух год прыватна. Добра зарабляў. Увесь час думаў ён аб тым, каб пабудаваць прыгожы вялікі дом гарадскога тыпу. Збіраў грошы. Зразумела, памаглі бацькі. І прыступілі Казлюкі да будовы. Самі збудавалі высокі фундамент. А вядома ўсім, што зямныя работы найцяжэйшыя. Пасля шмат папрацавалі фізічна, каб змураваць сцены, накрыць, зрабіць тынкі, цэнтральнае ацяпленне, ванну, туалет. І ўжо дом амаль закончаны. З'яўляецца найпрыгажэйшым у вёсцы. Ганарыцца ім Іван Казлюк. Ды і прынята ў нас разумець, што прыгожы дом гаворыць аб тым, што ў ім жыве чалавек працавіты, разумны, здольны, гаспадарны.



Івану Казлюку ўжо за 40 год. Час ажаніцца. Але цяпер на вёсках з гэтай справай вялікі клопат. Няма дзяўчат. Павыязджалі ў гарады, там працуюць і не хочуць вяртацца на вёску, нягледзячы на тое, што можна тут і больш зарабіць. Але што зробіш, калі яшчэ да сёння пануе мода на горад. Праўда, яна ўжо памалу прамінае. І добра.

Тэкст і фота **М. Х.**

Імпартгумар

# Дзяды і ўнукі

Роўна без чвэрці дзевяць за сцяной чуецца сабачы брэх. Гэта брэша эканаміст Праснакоў, пачынаючы карміць трохгадовую ўнучку Анжэлу. Ружовашчокая, пульхненькая Анжэла разбэшчана да таго, што не возьме ў рукі лыжкі, пакуль дзед не стане на чацвярэнькі і не забрэша па-сабачы.

Суседзі смяюцца. Няёмка, пэўна, і самому Праснакову, але што зробіш — больш за ўсё на свеце ён баіцца, каб унучка не пахудзела.

Трэба сказаць, што брэша Праснакоў прафесійна, з кожным разам удасканальваючы сваё майстэрства.

I ўсё ж мне здаецца, што Анжэле гэта хутка надакучыць і яна запатрабуе, каб дзед выў па-воўчы. Несумненна, малая з большай цікавасцю будзе слухаць гэтую жудасную імправізацыю, і тады можна паспець запіхнуць ёй у рот лішнія дзве-тры сасіскі.

Чаго не зробіш дзеля родных унукаў! Я таксама даўно ўжо дзед, выхоўваю ўнука, таму добра разумею Праснакова і нават спачуваю яму. Пры выпадку нават магу падзяліцца з ім сваім вопытам выхавання.

Напрыклад, я з поспехам выкарыстоўваю метад матэрыяльнага стымулявання. Каб накарміць Жоржыка, мне не трэба ні брахаць, ні выць па-воўчы. Ціхенька кладу яму на далоньку бліскучы юбілейны рубель, і карапуз тут жа высёрбвае цэлую талерку супу. Для таго, каб было з'едзена і другое, трэба дабавіць яшчэ рубель. Кампот або малако Жоржык п'е бясплатна.

Жоржык яшчэ не ведае ніводнай літары, а ў грашах разбіраецца не горш за дарослага. У яго нават расцэнкі свае ёсць: адзець штонікі — сорак капеек, выпіць таблетку ад кашлю — трыццаць, не цягаць ката за хвост — дваццаць пяць...

Ні табе плачу, ні енку.

Жонка катэгарычна супроць майго метаду:

— Зусім з глузду з'ехаў стары! Навошта калечыш дзіця?

На яе словы я не звяртаю ўвагі. Выхаванне — справа тонкая і, можна сказаць, індывідуальная. Навошта нерваваць малога? Хай сабе забаўляецца, як хоча. Падрасце, тады і разбярэцца, што добра і што блага.

Нядаўна малодшая дачка прывезла да нас свайго двухгадовага Толіка. Хлопчык беленькі, кучаравенькі — ну проста анёл! Ён ужо даволі выразна вымаўляе „р". Перад тым, як пачаць есці манную кашу, Толік хмурыцца і сярдзіта пытаецца:

— А р-р-рубель дасі?

**Уладзімір Мажэйка**

— І куды ж я падзеў запалкі?

---

# НАВУКА

— Міхась, не ўмешвайся!

### НА ШЫРОКІМ СВЕЦЕ

Сустрэліся два сабутэльнікі.

Адзін хваліцца другому:

— Ведаеш, я, можна сказаць, кірую сваім начальнікам.

— Няўжо?

— Ды каб я так жыў! Вось учора, напрыклад, выклікае ён мяне і пытае: „Як па-твойму, Іван, ці варта пасылаць Цыганкова на курсы?" А я смела так і адказваю: „Як зробіце, Васіль Пятровіч, так і будзе правільна".

*

Прадаўшчык пытае ў шэфа:

— Як адказаць, сэр, ці збягаюцца гэтыя фланелевыя кашулі пасля сціркі?

— Хто хоча гэта ведаць?

— Во той джэнтльмен. Кашуля яму спадабалася, але яна яму велікавата, а іншых памераў гэтай расфарбоўкі няма...

— Тады збягаюцца...

*

Генерал гутарыць з журналістамі.

— Панове, — гаворыць ён, — вось вы, цывільныя, усе такія разумныя, адукаваныя, начытаныя. Але дазвольце і мне вас запытаць: калі вы такія разумныя, што ж вы строем не ходзіце?

### МІНІВЕРШЫ

**ГІЕНА**

Гіену ўзялі на парукі —
Яна ўсім пакусала рукі.

**ЗЯЗЮЛЯ**

Зязюля лекцыю чытала,
Зязюля птушак павучала,
Як гнёзды віць, як яйкі несці,
І ёй пачулася, нарэшце:
— А дзе ваш дом? Вы адкажыце.
Да вас мы павучыцца прыйдзем.
Яна „Ку-ку" на развітанне:
— Ды не па тэме мне пытанне.

**ГАРБУЗ**

Павольна ўлез гарбуз на плот,
На сонцы лета грэў жывот.
Пахваляўся перад гуркамі,
І морквяю, і буракамі:
— Вы не шуміце тут. Цішэй.
Бо я за вас за ўсіх вышэй.
Плот не ўтрымаў часовы груз.
І... долу грымнуўся гарбуз.

**Паўлюк Прануза**

*У КАРЧМЕ „БАБСКІЯ СЛЁЗЫ"*

— *Здаецца, гэта рыба не зусім гатова.*

**Ён шмат даваў абяцанняў, але як гаспадар браў свае словы назад.**

---

Гумар з барадою

### БЫК У ЛЮДЗЯХ

Быў у аднаго дзядзькі адзін-аднюсенькі лысы бык. Убачыў нейк гэтага быка пан ды й захацеў яго выманіць сабе.

— Ведаеш што, дзядзьку, — кажа ён да гаспадара, — аддай мне яго, я яго вывучу і ў людзі выведу, а то ў цябе ён так і прападзе, гадаваць жа няма чым!

Дзядзька і аддаў. Вось праз нейкі час пайшоў ён да пана і пытае:

— Ну, як мой лысы, вывучыўся?

— А пан, каб адбрахацца, бо ён сабе быка забраў, і кажа:

— Эге, даўно вывучыў, ужо аж у губерні служыць твой лысы бык!

Дзядзька ўзяў торбу і пайшоў у губерню, а як спытаў там, дзе знайсці яму быка, дык яго і накіравалі да губернатара, бо яго прозвішча было Бык.

Вось дабіўся ён да губернатара, заходзіць да яго ў кабінет; паглядзеў на яго, а ён лысы і дужа нагадвае яго быка. Падышоў дзядзька да губернатара і, ляскаючы па патыліцы, кажа:

— То ты, быцю, ад маёй каровы? Ты глянь, і лысы такі ж, як і быў!

А губернатар як схопіцца ды за палку і давай яго біць, а дзядзька і гаворыць:

— Бык быком як быў, так і ёсць, яму б усё біцца!

### ЗРАЗУМЕЎ ПА-СВОЙМУ

Міколка дужа разышоўся: пачаў крэсла на падлогу перакульваць. Маці сур'ёзна папярэдзіла сына:

—Міколка, перастань, а то я табе дам...

— Калі што смачнае, то давай хутчэй.

---

— *Прынясі яшчэ кілаграм: ніяк не засвоіць закон Н'ютана.*

### ПЕСНІ ПА ЗАЯЎКАХ

*Па просьбе Галіны змяшчаем песню*

# ŻOŁNIERZOWI NIE NAJGORZEJ

**słowa: Janina Nowicka**
**muzyka: Eugeniusz Zdoliński**

*Marszowo*

Żołnierzowi różnie bywa na tym świecie,
czasem mu się wiedzie dobrze, czasem nie,
jeśli więcej na ten temat wiedzieć chcecie,
zapytajcie, bardzo proszę, właśnie mnie!
Już co nieco mogę dzisiaj wam objaśnić,
zagadnienie, jak widzicie, trochę znam,
bowiem służby mojej roczek mija właśnie,
doświadczenie wobec tego duże mam!

Raz na wozie, raz pod wozem,
ale jeszcze nie najgorzej.
Bywa „Baczność!" w pełnej gali,
bywa „Spocznij! Wolno palić!"
Raz na wozie, raz, niestety,
włażą w pięty kilometry,
ale minie rok bez mała,
będzie człowiek, nie patałach!

Żołnierzowi doba mija, gna zawrotnie,
ledwie nowy dzień się zaczął, a już noc.
Jeszcze szybciej, kiedy żołnierz na urlopie,
dni przelecą jak meteor, no i stop!
Do jednostki wraca trochę ociężały,
spania mało, jadła nieco ponad plan.
Hanki, Zośki bohatera pożegnały,
no i dobrze, no i dosyć, jutro w tan!

Raz na wozie, raz pod wozem...

Żołnierzowi blisko ziemi, blisko nieba,
nawet morze po imieniu woła go,
bywa górnie, bywa chmurnie, bo tak trzeba,
czasem dobrze, bardzo dobrze, czasem nie!
Jeśli bywa trochę tęskno do dziewczyny,
jeśli zdarzy się, że wieści z domu brak,
żołnierzowi nie przystoją smutne miny,
żołnierz śpiewa na pociechę sobie tak:

Raz na wozie, raz pod wozem...

### З „ВЕСНІКА ЗАДРЫПАНКІ"

Перад чарговым матчам футбалісты даведаліся, што па тэлебачанню транслірують толькі другі тайм. Таму яны вырашылі першы тайм не гуляць.

---

# КУРЁЗЫ

### РОБАТ-АКУЛА

Каму даводзілася пабываць у Англіі, той ведае, што там нават прысесці адпачыць на лаўцы ў парку нельга бясплатна. Адразу ж да вас падыдзе служка і напомніць: вы павінны разлічыцца за месца. Паркі там таксама ж з'яўляюцца прыватнай уласнасцю.

Дарэчы, прыватная ўласнасць на зямлю дастаўляе нямала клопатаў не толькі тым, хто хоча недзе адпачыць, а і самім гаспадарам участкаў. Некаторыя прадпрыемцы валодаюць узбярэжжам рэк, азёраў, але самі водныя прасторы аднак не належаць ім. А паколькі гэта так, то ў ваду бессаромна лезуць купальшчыкі. Грошы яны не маюць намеру плаціць, бо не ляжаць на траве, не сядзяць на лавах, а бултыхаюцца сабе ў вадаёме, хаця да яго і не лятаюць паветрам.

Аднак чаго толькі нельга прыдумаць у век тэхнічнай рэвалюцыі. Адзін лонданскі мастак і таксама прадпрыемец прапанаваў вынайдзеную і зробленую ім механічную... акулу-„людаеда", якая каштуе аж 860 долараў. Гэты незвычайны плаваючы робат сярод мільянераў пайшоў нарасхват. Варта толькі чалавеку, які ўвайшоў у ваду, убачыць, што на яго імкліва насецца гэткае паўтараметровае драпежнае страшыдла, як ён выскаквае з вады і гатовы за дзесяць кіламетраў бегчы, куды вочы глядзяць. Многія пасля такога жаху пачалі проста грэцца на беражку на сонейку, папярэдне, вядома, заплаціўшы гаспадару...

# Смяюцца нямі

**Кладучыся спаць, дастань камень з-за пазухі і трымай яго ў руцэ.**